Цана асобнага № 30 кап.

# Вольная Беларусь

Тыднёвік палітычны і літэратурны.

Умовы падпіскі:
На год......12р. —
На поўгода.... 7р. —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захараускал, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.



Ніхай жыве Нізалежная Беларусь!

Зьмест № 26.
Да краевае інтэлігэнцыі, стацця К. Шафнагеля; Сымон Музыка, поэма Якуба Коласа; З вечарынкі, верш Старога Уласа; Наш Валожын, верш Старога Уласа; Чад самагубства, апавяданне Крауцовага Макара; Кроніка, Бібліографія абвесткі і інш..

№ 26. 1918 г. 14-го ліпня 1918 г. № 26.

## Да нашай краевай інтэлігэнцыі.

(Глядз. № 25.)

*(Другі адкрыты ліст.)*

Заметка рэдакцыі у пачатку майго першага лісту да краевай інтэлігэнцыі, у каторым гаворыцца, што я праз усе жыцьце свае стаяу на краевым становішчу, а цяпер, калі для Беларускаго народу прышоу момэнт дзеля чыннаго выступлення, адкрыта прызнау сябе за сына зямлі Беларускай, прызнау сябе за беларуса,—як я даведауся і спазнау сваей асобай, вызвала многа закідау, крытыкі і рознародных уваг. З гэтай прычыны лічу за сваю павіннасьць публічна вытлумачыць свае становішчо у гэтай справі,—ні гэтулькі дзеля асабістай патрэбы, сколькі дзеля карысьці самой справы, спадзяючыся, што гэтае выясьненне шмат каму поможэ у орыентацыі свайго уласнаго становішча у гэтакіх важных у гэты час справах.

Аднак, выясьненне свайго асабістаго палажэння у гэтай справе я мушу паставіць наперад, даючы гістарычны погляд на нацыянальнае пытанне у нашым краю.

У Літве і Беларусі пануюць нізвычайна заблутаныя нацыянальныя адносіны. Ні кажучы аб тым, што на нашай зямлі жыве некольні нацый, каторыя часьцю займаюць асобныя абшары (беларусы і літоуцы), часьцю у адзіночку, або гурткамі раскінуты паміж тымі густымі массамі (палякі і жыды),—адносіны гэтыя блутаюцца яшчэ болей, калі кінем вокам назад—у гістарычную мінуушчыну.

У часах нізалежнасьці Вялікаго Княства Літоускаго (справядлівей Беларуска-Літоускаго. Рэд.). яшчэ нізлучанаго палітычнай вуніей с Польшчай, у гэтай дзяржаві жылі бадай што толькі два народы: русіны і літоуцы. Русіны складаліся з некольких плямёнау: крывічоу, дрэулян і іншых, вядомых пад агульным імям беларусау і «малярусау», (Чырвоная Русь—гэта украінскі народ),—бо у тыя часы Вялікае Княство Літоускае уладало усей «Белай» і «Малай» Русью. Усе гэтыя племены былі тагды вядомы, як адзін «рускі» народ, аддзяляючыся гэтым імям ад «маскалеу», або вялікарусау. У тагочасных дзяржауных дакумэнтах гістарычных мы пастаянна спатыкаем гэтакае выдзяленне: «Мы, баяры літоускія і рускія, сабраушыся, ухвалілі і т. д.» Дый пасьля вуніі с Польшчай нейкі час трывае гэтакае выдзяленне у дзяржауных актах і кроніках; аднак, с ходам часу названне «рускія баяры», «руская шляхта» заціраецца, але ні зьнікае, а толькі прыбірае новае імя, супольнае з народам літоускім і узятае ад літоускае дзяржаунасьці,—імя «літвіноу.» Уся дзяржава, зложаная з некольких нацый, адтрымлівае агульнае названне «Літвы»; жыхары яе—як сапраудныя літоуцы, так і русіны—без ніякай рожніцы сталі называць сябе «літвінамі», адрозняючы сябе гэтым ад палякоу, жыхароу «Кароны.»

Вось маема тут першы прыклад, як у нашым краю, асабліва пасьля аддзялення ад Літвы Украінскіх зямель, пераважываючая масса жыхароу яе (народ «рускі», русіны) у сваім цэлым і у паадзінокіх асобах зьмяняе, на погляд, сваю нацыянальнасьць, а папраудзі толькі імя свае. Замест «рускімі», або беларусамі, нашы дзяды пачалі называцца «літвінамі.» «Літоускае войско», «літоуская шляхта», «літоускі народ»—усе гэта абнімае як сапрудных літоуцау, так і русінау (беларусау).

Хаця акурат у тых жа часах «літоуская» шляхта і паны апалячыліся, пакінулі мову бацькоу сваіх, пачалі гаварыць па-польску і прынялі польскую культуру,—зьверхна сталіся яны «палякамі», аднак ажно да самаго канца істнавання «Рэчыпаспалітай» гэтая шляхта і паны заусёды называлі сябе «літвінамі», каб адрожніць сябе ад палякоу—«короняжы», жыхароу Польскаго Каралеуства. На соймах у Варшаві наша спольшчаная шляхта выступала заусёды, як шляхта «літоуская», як літвіны», што відаць з усіх тагочасных гістарычных дакумэнтау. Тагочасныя «палякі» у Літве і Беларусі ні толькі ні устыдаліся называць сябе «літвінамі», а, наадварот, лічылі гэта за гонар і патрыятычную дыстынкцыю.

Упадак «Рэчыпаспалітай» выклікау у гэтых адносінах вялікія перамены: Русь Літоуская, або Беларусь, адтрымала ужо офіцыяльна свае сягоняшняе імя, а народ наш усюды пачалі офіцыяльна называць беларускім (у часах «Рэчыпаспалітай» толькі у кроніках ці у паадзінокіх выпадках спатыкаем гэтае імя: «беларуская дывізія» каля 1730 г. і т. д.). А разам с тым «літоуская» шляхта пачынае называцца «польскай.» Даунейшы беларускі шляхціц—«русін», пасьля—«літвін», называе сябе «паляком.» Але як толькі гэтакі «паляк» трапляу у Аршаву, дык, каб выдзяліцца с-паміж «короняжы», па старому называу сябе сьвядома «літвіном.»

Аднак, за нашай ужо памяці адбылася новая перамена: абуджаная нацыянальная сьвядомасьць сапрауднаго літоускаго народу, ужываючаго літоускай мовы, і варожыя да свае апалячанае інтэлігэнцыі выступленні яго зрабілі тое, што літоуцы—«палякі» зусім перасталі называцца літвінамі, хаця яны роду літоускаго, хоць ад дзядоу-прадзядау тут жывуць, хоць яны—Літоускае зямлі. І цяпер імя літвін ужываюць толькі этнографічныя літвіны, каторыя гавораць па-літоуску. І даунейшы «літоускі шляхціц», цяпер—«паляк з Літвы», лічыць за абразу для сябе, калі хто яго называе «літвіном»: ен толькі... «паляк.»

Тое-ж самае робіцца і с «палякамі»—даунейшымі русінамі: і яны, некалі шляхта «руская», пасьля «літоуская», урэсьці «польская», крыудзюцца, калі іх назваць шляхтай беларускай, беларусамі. Бо узрост нацыянальнай сьвядомасьці беларускаго народу, каторы, як і народ літоускі, нідаверчыва глядзіць на сваю спольшчаную інтэлігэнцыю, выклікае той самы рэзультат: «паляк з Беларусі» лічыць за ганьбу для сябе называцца беларусам.

А усе-ж такі і тут на нашых вачах адбываецца і павінна сама сабою адбыцца новая перамена.

Здарэнні апошніх дзен, каторыя становяць добры грунт дзеля узросту сьвядомасьці уціснаных дагэтуль на сваіх этнографічных землях беларусау і літоуцау, грунт—дзеля іх самаадзначэння, дзеля жадання свае дзяржаунае самабытнасьці,—здарэнні гэтыя павінны выклікаць пераварот у самаадзначэнні нашай спольшчанай краевай інтэлігэнцыі—«палякоу» з нашаго краю. Гэтая краевая інтэлігэнцыя, гэтыя «палякі» павінны раздзяліцца і—у меру разьвіцця беларускай і літоускай дзяржаунасьці, калі ні хочуць застацца за дзьвярыма, як чужая нацыя на роднай зямлі,—павінны будуць называцца літоуцамі, або беларусамі, залежна ад таго, дзе, у якой часьці краю яны жывуць,—называцца так у значэнні дзяржаунай прыналежнасьці. Заховываючы мо яшчэ на доугі час польскую мову і культуру, яны павінны прызнаць сябе за беларусау, або літоуцау у дзяржауным, а с часам і у нацыянальным значэнні.

Дэмакратычны рух з нізу, узрост нацыянальнай сьвядомасьці народа, здабываючаго свае права на нацыянальны дзяржауны быт, будуць шыбка наблізаць эвалюцыю нацыянальнаго самаусьвядамлення тутэйшай інтэлігэнцыі. Гэта інтэлігэнцыя павінна ісьці с тым рухам з ні-

Як аддзякаваць ні знае.
— Ну, што даць табе?—спытаў.
Паляшук—лясьнік абцёрся,
Вынуў люльку с капшуком,
Крок назад ступіў, прыпёрся
Ен да хвоі плячуком.
— Паменяйма, князь на люлькі,—
Прапануе паляшук:
Да свае яшчэ крывулькі
Дам ў прыдатак і капшук.—
Засьмеяўся князь, выймае
Сваю люльку і дзе,
А Даніла разглядае,
Рады, цешыцца з ее.
С таго часу князь ніколі
Лясьніка ні забываў
І пасаду—лес і поле—
Ен Данілі даравау.
Прыезджае князь, бывала,
На Палессе палеваць.
За Данілам пасылалі
Князя ў лесі праваджаць.
І ніхто так, як Даніла
Пушчы тэй ні знаў, лясоў.
Узгадавала і ўскарміла
І Данілу, як зьвяроў.
Шыр балотаў нісканчоных,
Пушчаў дзікіх гушчарэ,
І ў яе таёмных лонах
Чуўся ён, як пан ў дварэ.
Ведаў бораў ён настрої,
Змысл ніўцямных галасоў
Дуба, граба, елкі, хвоі,
Як іх родны—бы душою
Зьліўся с цемрамі лясоў.
Прад панамі ён ні гнуўся,
Ні скланяў прад імі стан,
Да іх кругу ні гарнуўся,
Проста—сам сабе быў пан.
А як часам князь спудлуе,
Зьвера выпусьціўшы з рук,
На яго тагды сярдуе,
Доўга лае паляшук.
Князь апраўдваўся па сілі,
Сьмех самога забіраў,
Але больш і больш Данілі
Князь прыхільнасьць аддаваў,
А ў канцы забраў с сабою.
Князь стары даўно памёр
Дзед Даніла тэй парою
Быў прыпісан князям ў двор.
І цяпер, як ўсе у замку,
З ног зьбіваліс і таўкліс,
Вышаў дзед у парк за брамку,
Як у пушчу шоў каліс.
І сярод дубоў разложных,
Стройных топаляў і ліп,
Хвояў тоўстых і вяльможных,
Дзед туліўся, бы той грыб.
Тая-ж вопратка мужыча,
Світка рудая і брыль.
Дзед Даніла ціха смычэ,
Сам с сабою штось 'мармычэ.
Мо Палесся казка—быль
Дзеду думкі ўзварушыла
Пушча ў памяці ўсплыла,
І душа па ёй тужыла,
У пушчу родную вяла.
Дзед быў горды і з высока
Ен на чэлядзь пазіраў
І жыў вольна, адзінока
Парка глуш адну кахаў
І яго ён вартаваў.
Дзед Даніла парк вартуе,
Службу верна ён нясе.
Усё аглядаіць, ўсё прачуе,
Усе кутко ператрасе.
Ходзіць дзед, а парк вялікі,
Стрэльба тая ж—верны друг;
Дзед спыніўся—чуе зыкі,—
Азіраецца вакруг.
Зыкі змоўклі, дзед вертае,
Згледзіў штось, ідзе туды.
— Хто ты, хлопчэ?—ён пытае:—
І чаго прыйшоў сюды?
— Я замковы, дзедка Божы.
Ці ні можна тут пабыць?
Тут так хораша, прыгожа,
Лес—што з небам гаманіць!—
Дзед сурьезны усьміхнуўся.
— Любіш, хлопчэ, лес?.. эгеш!
Стан у дзеда разагнуўся.
— У замку ты даўно жывеш?—

**Якуб Колас**

21—25/XII 1917 г.
г. Обоянь Курск. губ.



# З вечарынкі.

Маючы вольную часінку,
Разскажу я сьмешную навінку,
Калі хто слухаць будзе рад.
Нядзель с пяць таму назад,
Неяк із нашаго мястэчка
Вядомых два чалавечка
Уздумалі як мае быць
Крыху сябе павесяліць.
Узялі на рукі ў суседа
Сабе каня—старога дзеда,
Санкі з дугою і хамут
І ў мейсцы пугі доўгі прут.
Паехалі сабе у засьценак
На вечарынку да паненак,
Ці мо', як кажуць, і да баб.
Адзін быў малады, ды слаб,
Казалі нават, што лячыўся,
Ды у духоўнікі маціўся,
Крыху ён меў к таму патрэб,
Што-ж, мусіць гэта лёгкі хлеб.
Другі, сказаць мой ты братушка,
Хітрая гэта была птушка,
С такіх, што ёмка плён бяруць,
Хоць ані сеюць, ані жнуць,
Далёка слыў у цэлым павеці
Сумеў устроіцца на сьвеці
І хоць сівы ужо волас меў
Але здароў шчэ быў, як леў.
Гасьцілі там яны па-панску,
Ды выпілі па хрысьціянску
І разагрэўшы ёмка кроў,
Павярачаліся дамоў.
Ноч цёмна, хоць ты выкаль воко
Ды сьнегу намяло глыбока
Ні ехаць, ні то начаваць,—
Дарогу конь павінен знаць.
А у старане, ні падалёку
Жыла ўдоўка адзінока,
Воддаль дарогі, у цішы.
Добрай кабеціна душы.
Ні збыць і стара шчэ гадамі,
Любіла строіцца часамі,
Была даходна, так сказаць,
Умела часам пагуляць.
Ну, дык туды нашы вашмосьці,
Мусіць зайсьці хацелі у госьці,
А мо' патрэбу мелі там.
Цьвёрда ні ведаю і сам.
А можа конь благой налогі
Ні пільнаваў саўсім дарогі,
Паплёўся сам сабой на угад,
Пад тое мейсцо акурат.
Мо' яно-б так і асталося
І да нікога ні дайшлося,
Ніхто бы з нас ні чуў, ні знаў,
Каб чорт канінкі ні ўвагнаў
У капаніцу ля дарогі:
Яна уперад ўбіла ногі,
І кідалася, як магла,
Аж покуль у гразі ні легла.
Ездакі пашы у трывозе
Німа ўжо як сядзець на возе,
Трэба вылазіць с санак тут,
Бо ужо ні памагае прут.
Ні самавітая работа
Пягаць зімой каня з балота,
Брацца за хвост і за гужы,
А прыступіцца—ні кажы.
Лезьці ў ваду німа ахвоты,
Адзін набраў ужо у боты
І выліваць пашоў на сьнег;
Другі засопся так, як мех.
Прытом ні маючы прылады
Ні маглі даць ніякай рады,
Людзей жа ж ні было нігдзе,
Дык кінулі каня у вадзе,
І сталі думаць, што тут будзе?
Глядзяць, аж стог стаіць на грудзе
Дык давай скубці і паліць,
Каб як дарогу асьвяціць.
Цягнулі сено і палілі
Шмат яго некаму зглумілі.
Посьля шлі ужо на угад
Пакуль патрапілі назад.
Там, як прыгоду разсказалі,
На ногі усіх селян паднялі;
Хто схапіў вілы, хто тапор,
І на ратунак кожан пёр.
Усе ляцелі грумадою
Узяўшы вяровак шмат с сабою.
Але пакуль народ прысьпеў
Дык бедны конік акалеў.
Цяпер ніведама што будзе,
Каб ні прышлося стаць на судзе
Сьведкаў зьбіраць ды іх паіць,
І за каняку заплаціць.
Ды ішчэ ніхай моляць Бога
Што ніспалілі тагды стога
Бо мала с конікам бяды—
Было б за сена шчэ тагды.
Так посьля нашыя камраты,
Урачы разьбітыя салдаты,
Як с-пад японца, акурат,
Пяшком трапялі ужо назад.

Валожын.
7/II—1913 г.

**Стары Улас.**



# Наш Валожын.

Каб ведаць што ні надаеў-бы
Сягоння вам, чытачу мой,
Дык пазнаёміць вас хацеў-бы
З нашай мейсцовасьцей глухой.
Каб жа ж хаця мае пісанне
Хоць крышку прынясло дабра,—
Перахрысьціўся, ўстаўшы зранне
І хутка ўзяўся да пяра.
Мястэчко наша людноватэ,
Можна сказаць на добры лад,
Ні яно бедно, ні багато
На лік са трыста будзе хат.
Есьць і с шэсьць вуліц гразкаватых
І рынак ні забрукован.
Есьць людзей простых, панаватых,
Ды жыдоў больш, як хрысьціян.
Есьць і начальнікі патрэбны:
Земскі, акцызны, пачтавы,
І сьледавацель ёсьць судзебны
І сам асэсар станавы.
Валасны пісар і старшына,
Вучыцель, дохтар, аптэкар,
Урадпік — добрая скаціна,
Стражнікаў з восім і жандар.
Царквы ёсьць тры, адна с касьцёла,
Чацьвертая у старане,
Жыдоўскіх аж чатыры школы

I манаполек маем дзьве.
Есьць валаснoе упраўленне,
Вялікі хлебны магазын,
Дзьве школкі дзецям на вучэнне
I. хоць малы, вадзяны млын.

А пры мястэчку забудован,
Із старадаўніх відна пор
Стаяў, ўрэчы намалёван,
Вялікі і багаты двор.

Цераз яго была дарога,
Да нідалёкаго села,
Было дварні калісь у ём многа
Як ішчэ паншчына была.

Тагды жыцьцё цякло ні нудна,
Як стары граф нябошчык жыў,
Было і весела, і людна,
Усюды парадак добры быў.

Жыў тут, ні езьдзіў граф за моро
I за сваіх стаяў грудзьмі,
Бывала, радасьці і горо
Дзяліў с сваімі ён людзьмі.

Высокаго сам бўшы стану,
Любіў свой край і свой народ
Вечная памяць графу Яну
Будзе праходзіць з года ў год.

Для нас дабрэ бы ён німала
У сваім часі мог зрабіць
Без пары сьмерць яго забрала,
I Бог ні даў яму пажыць.

На паляванне ён сабраўся
З братам, раку пераеджаў,
Ды мост пад імі заламаўся
I ён там сабе сьмерць дастаў.

Есьць адно ўрочышчо лясное
У пушчы, вёрст дзесяць ад двара,
I з даўных часаў мейсцо тое
Завуць «Высокая Гара».

Гдзе, як ідзе апаведанне
I з Бацяном у двух яны
У той час як было паўстанне
Крыліся у лесі ад вайны.

I там на узгорку крыж дубовы
Ішчэ да гэтых пор стаяў,
Дзе сухама свой хлеб бярловы
Бацян і с графам спажываў.

Ні раз і посьле палявалі
Па ройстах і па балатох;
А неяк адзін раз, казалі,
Быў граф ў Бацяна у гасьцёх.

Ды было гэта неяк ў посьце,
Без верашчакі і бліноў,
Дык частаваў ён свайго госьця
Гарачай поліўкай з ўюноў.

А посьля гэтаго, прызнацца,
Многа зьмянілося с тых пор.
Марнець усё стало і псававацца
I усё пайшло неяк на сьцёр.

Тагды усе бралі што хацелі,
Чыноўнікі, папы, дзякі,
А толькі браць тагды ніўмелі
Дурныя нашы мужыкі.

I ні адзін такі ягомасьць
Навадна у той час лізнуў
Бо мелі, як была вядомасьць,
Забраць і рэшту на казну.

Але як раз ў пару нашоўся
Ужо другі дзядзічны пан,
I гэты так-жа сама зваўся
Так як і першы той наш—Ян.

Так сама графскаго быў звання
I хоць у нас ужо ні жыў,
Але за то на паляванне
К нам прыежджаць часта любіў.

Тагды узноў усё паднялося
Ды шмат палепшало другім,
I навят добра зажылося
Але ужо гэта ні усім.

Стары Бацян за першым панам
На другі сьвет пайшоў скарэй,
А палевацці з графам Янам
Стаў ужо сын яго, Андрэй.

I вельмі добра ён спраўляўся
Бо спрыпен к гэтаму ён быў
I па зьвярыные кожнай знаўся
За тое граф яго любіў.

Бывала, зьвера як асочэ,
То ні прасьлепе ужо нігдзе
I займе воступ, як захочэ
Дык гэта ужо ні завядзе.

Аблаву як вясьці умее,
Ды як паставіць гдзе стральца,
I ніхто лепей ад Андрэя
Ніўмеў паднесьці пад глушца.

Любіў бывала граф Андрэя
I ад другіх дарыў часьцей,
Ды йшчэ гасьцінца ён німала
Лавіў часьценька ад гасьцей.

А неяк раз на паляванні
Калі мядзьведзя граф забіў,
Андрэю пры усім сабранні
Граф кажушок свой падарыў.

Аднэй зімы у мясаедзе,
Як сястру замуж аддаваў
Андрэй, дык граф быў на бясєдзе
Сам на вяселле прыежджаў.

Усякай усячыны дык кучы
Да Белакорда ён прывёз,
Гарэлкі неякай пахучай
I пірагоў ні узяць на воз.

Напечано с цукрам і мёдам,
Вельмі салодкае усё,
А смакам—дык каб ты, брат, ведаў!
I каравай, як калясо.

Граф мужаваў і забаўляўся
I танцаваць нават хадзіў,
I з маладымі цалаваўся,
Пяць чарванцоў ім падарыў.

I абецаў для маладога
З бліжэйшаго абходу даць
На хату дрэва страявога
Сухапастоін трыдцаць пяць.

Ды ні было чым пахваліцца
Гэтак сказаць можна пяпер,
Знаць ні судзіў Бог таму збыцца
Бо неяк скора граф памер.

Па ім маёнтак увесь астаўся
Сыну старэйшаму тагды,
Гэты граф Міхал называўся,
Быў добры, але малады.

Ні знаў, як трэба жыць сягоння,
Што трэба ведаць, што умець;
Бывала, з ветрам у поле гоне,
За моро, дзе любіў дурэць.

Там, кажуць, весела жывецца,
Цьвітуць сады, урачы рай,
Птушкі пяюць ямчэй, здаецца;
А толькі грошы падавай.

Дзеўчат заморскіх ясны вочы,
Іхні спадманкі харашы,
А цёплы і пагодны ночы
I тыя гулі у цішы...

Ой, вы, заморскія дзеўчаты,
Жанатаго ці паніча
Ні аднаго з нашаго брата
Вы абгалілі, як біча.

I вот на двор гэты павелі,
Праз сарачпю і пяць гадоў,
На днях пагодных лепшай долі
Наступіў чорны год ізноў.

Даўгоў набралося усячых,
Апека, банк,—хоць галасі—
Плаціць ні было чым служачых,
Купцы убіліся у лясы.

А тут, да усіх гэтых бедаў
Натоўпілося акурат
I гультаёў і дармаедаў
I абіралаў ўсякіх шмат.

I камісараў было многа,
Злажыушы—цэлая гара,
Але ні выйшло тут нічога
Бо ні было гаспадара.

Перш пайшлі пусткі на прадажу
Посьле абцінкі пад руку,
А пачакаўшы, як той кажэ,
Далі хвальваркам па баку.

Ізноў пачалі канцы рвацца;
Неяк да часу, да пары
Ізноў пачалі нажывацца
Але ўжо толькі махляры.

I яны цэлаю грумадай
Урэчы да пометкі жукі,
Альбо у восень да прынады
Вароны, галіцы, крукі.—

Так і яны сюды напалі,
Мінуцца-б ім была пара,
I рвуць, каб так яны прапалі,
Астаткі панскаго дабра.

Валожын, 15/х—1911 г. **Стары Улас.**



Буду спосаб меці,
Аддзякуваць другу.
Зьлетай, легкі, борада
У край, адкуль я родам.

---

У краю тым — старонцэ
Брат мой беларусін
Гібее без сонца.
Там усім пакловам
Нізкім ты скланіся.
Хай жывуць, красуюць...
А потым вярніся.
Гэтта скажаш, браце,
Мне, што там убачыш.
Буду спосаб меці,
Пaглядзіш, аддзячу.

Ні водзін народ на сьвеці ні выявіў у пісьменстві такога замілавання да свае айчыны, як наш беларускі народ! Хто з нас ні памятае хвалюючых душу вершаў Якуба Коласа:—«Мой родны кут, як ты мне мілы! Забыць цябе ні маю сілы?« Гэтакае замілаванне да спакутанаго роднаго краю мы спатыкаем і у Алеся Гаруна. Там, дзе ён зьвяртаецца, пакутуючы у выгнанні, да радзімай староны, чуецца нешта стыхійнае, як бібійны плач «На рэках Бабільёнскіх»:

Чаму з маленства, з урадженства,
У жыццевы май
Ні умеу, як маці, шанаваці
Цябе, мой край..

пытае самога сябе поэта, а далей гаворыць:

То-ж я с тваею ключавою
Сьвятой вадой
Напіуся болю аб нядолі,
Бядзе людзкой.
Я брау, ні бачыу, і ні аддзячыу
Табе ні чым,
Бо, счараваны, цябе, укаханы,
Ні знау саусім.

Алесь Гарун — поэта самабытны, наскрозь арыгінальны і без жаднаго надворнаго уплыву. Верш яго звонкі і чысты, як крышталь. Кожнае слово вершу займае свае мейсцо і усе творы яго напісаны так, што у іх, дапраўды, словам цесна, а думкам прасторна. «Матчын Дар» — адмысловы падарунак у скарбніцу беларускай літэратуры, каторы надаў-бы гонару прыгожаму пісьменству і вісока-культурнаго народу.

Нашых пісьменнікаў нельга раўняць с пісьменнікамі іншых народаў. Міцкевіч і Пушкін, Толстой і Геттэ — людзі заможных станаў, для каторых пісьменство было ядынаю працай у жыцці, заданнем і зьместам іх жыцця. Іх ні турбавала думка аб чорным хлебі, яны ні гнулі сваіх сьпінаў над цяжкай фізычнай работай. Яны вольна і спакойна аддаваліся натхненнай творчасьці, ні баючыся таго, што ні будзе чаго есьці. Яны ні баяліся таго, што літэратурная творчасьць адбярэ у іх час, патрэбны для здабыцця штодзеннаго хлеба. Ні тое у нас. Нашы пісьменнікі — працоўныя, бедныя людзі. Яны ні маюць магчымасьці пасьвяціць свае жыцце пісьменству, а прымушаны аддаваць свой час цяжкай працы для здабыцця чорнаго хлеба. І, мы бачым, што Алесь Гарун — сталяр па профэсіі—ні разгінаючы сьпіны ад сталярскай работы, надарыў нас такімі мастацкімі, натхненнымі творамі, каторыя надалі-б славы кожнаму культурнаму народу,—калі мы бачым і маем гэта, дык маем право гардзіцца, беларусы! Гэта сьведчыць а вялікай здольнасьці нашаго народу. Вялік беларускі народ і у рэнегацтві (Міцкевіч, Касьцюшка, Дастаеўскі, Сыракомля), —дык якія-ж шырокія магчымасьці адчыняюцца перад намі калі мы станем на уласныя ногі, адбудуем свае уласнае гаспадарство ды перастанем быць паказным папасам для чужынцаў! Будзь горд, беларус! Перад табою сьветлая і вялікая будучына...

Па хараству выдання «Матчын Дар» можа сьмела лічыцца першым у нашай маладой, багатай вялікімі магчымасьцямі, літэратуры. Зграбны фармат, харошая папера, ясны і чытэльны друк, адмысловая вокладка у старым беларускім гусьце работы Р. Земкевіча, багаты зьмест кнігі,—усё гэта надае кнізе вялікай вартасьці і спраўляе прыемнае ўражэнне. «Матчын Дар» можа па справядлівасьці лічыцца найлепшай настольнай кнігай для інтэлігэнтнаго беларуса. На вялікі жаль, кніга мае адну, досыць значную хібу: яна надрукована без кароткаго нашаго «ў» і без «ё». Гэта абцяжае чытанне вершаў, асабліва для мала звыклаго чытача. Тым часам, хібнасьць гэта агульная для усіх менскіх беларускіх выданняў, дзе друкарні ні дапасованы для беларускаго друку і ад чаго пры сучасных варунках ухіліцца ні магчыма, ні маючы на мейсцы словалітні.

**Я. Л-к.**

---

А. Луцкевіч і Я. Станкевіч. Беларускі правапіс. Выданне Беларуск. Камітэту. Вільня. 1918 г. Стр. 32 in 16.

Гэта ўжо другая спроба даць практычны падручнік беларускаго правопісу для пачатковых школ. Першаю спробаю была праца аднаго с першых аўтараў—А. Луцкевіча, «Як правільна пісаць па-беларуску», установленыя каторым правілы «акання» праведзены у правопісу і гэтай кніжачкі. На устанаўлевні правіл «акання», уласна кажучы, і палягае увесь беларускі правопіс. Правопіс сугалосных зыкаў спрэчак ні выклікае. Ніясныя сугалосныя зыкі выяўляюцца цераз пастаноўку посьля іх зыкаў галосных. Але калі зьвернешся да праведзяных аўторамі правілаў «акання», дык адразу натыкаешся на ніпаразуменне: дзеля чаго аўторы захавалі гэтае двоякае напісанне *не, ня, перад, перэд* і т. д.? Мы ні думаем, каб тыя дзеці, для каторых назначаюць аўторы сваю працу, падзякавалі ім за гэта. За хітравумнае тлумачэнне такога правопісу п. А. Луцкевіч заслугуе пахвалы, але для практычнаго ужытку гэта ні надаецца. Гэта трэба зазначыць цьвёрда, каб надалей ухіліцца ад падобных хітрыкаў у правопісу. Далей, саўсім нізразумелым зьяўляецца для нас напісанне прыкметнікаў множнай лічбы с канчаром на *е*, а ні на *я*. Беларус любіць «акаць», дык дзеля чаго-ж пісаць *е*, калі тут ясна чуецца *я*? Ясна, што камусь ні да густу нашае зычнае і ёмкае аканне. Але густ ні з жыццёвай практычнасьцю, ні з навукаю нічога агульнаго ні мае, а таму на ём грунтавацца ні сьлед.

Зазначыўшы гэта, мы мусім сказаць, што такія спробы практычнаго правопісу нам канечне патрэбны, і аўторы добра зрабілі, што ні пашкадавалі для гэтаго часу. Шкода толькі, што ні усе правілы яны залічылі патрэбным умацаваць прыкладамі для навучання. У кожным выпадку гэтую кніжачку, за хібнасьцю покі што лепшых, можна сьмела пусьціць у пачатковыя школы. Мінчанам ні шкодзіло-б, дзе-што выправіўшы, перадрукаваць яе кірыліцай і пусьціць у свае пачатковыя школы.

**Я. Л.**

---

## Памылка.

У папярэднім нумары [№ 25] нашай часопісі у кроніку ўшчамілася прыкрая памылка: было надруковано, што беларускі драматург Ф. Алехновіч вярнуўся у Вільню.

Памылку папраўляем: Ф. Алехновіч застаецца у Менску, гдзе ён адтрымаў мейсцо загадчыка рэпэртуару Беларускаго Дзяржаўнаго Тэатру.

---

Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.